# ДЗІДА

ІНФАРМАЦЫЙНЫ ВЕСЬНІК
ГАРАДЗЕНСКАЕ АРГАНІЗАЦЫІ
«МАЛАДОГА ФРОНТУ»

№3
КРАСАВІК
2000


## Абаронім Айчыну самі!

***Пад такім лёзунгам гарадзенскія арганізацыі "Маладога Фронту", "Маладой Грамады" ладзілі 23 красавіка з11да 12 гадзінаў несанкцыянаваны пікет каля Дома Сувязі.***




Моладзь агітавала за правядзеньне вайсковае рэформы, якая б вырашыла праблемы з прафэсійным войскам, альтэрнатыўную вайсковую службу. Вялікая колькасьць плякатаў, 2 зарэгісраваныя сьцягі (БНФ і БСДП(НГ)), раздача ўлётак стваралі ўражаньне скардынаваных дзеяньняў маладой апазыцыі. Акрамя гэтага мінакам, якія ішлі на рынак, было раздадзена каля 500 улётак з тлумачэньнямі ды сабрана каля сотні подпісаў за ажыцьцяўленьне ў краіне вайсковае рэформы.Подпісы працягвалі зьбіраць нават пасьля адыходу большасьці ўдзельнікаў акцыі. Плануецца, што гэтая акцыя будзе працягвацца і надалей.

***Андрэй Мялешка***

## Чарнобыльскія пікеты

**26 красавіка ў Горадні каля Дому Сувязі ды на Фартах адбыліся пікеты з нагоды 14-й гадавіны Чарнобыльскай катастрофы.**

Гэты факт стаўся тэмай гарачай спрэчкі паміж удзельнікамі пікету і міліцыянтамі. Апошнія ўважліва сьпісалі ў блакнот тэкст на плакаце: "Абаронім Беларусь ад Чарнобыльскай бяды, лукашысцкага рэжыму і расейскай акупацыі!" Прадстаўнікі правапарадку не адмовіліся ад прапанаваных улётак "Незалежнасьць – гэта экалягічная бясьпека" і "Чарнобыль".

Толькі на Гарадзеншчыне пацярпелі ад радыёактыўнай навалы 150 паселішчаў з насельніцтвам 28 тысяч чалавек. У вобласьць з заражанай зоны перасяліліся 4900 сем'яў, альбо 16 тысяч грамадзянаў.

Але не было яшчэ выпадку, каб пацярпелыя ад Чарнобыльскай катастрофы людзі выйшлі патрабаваць свае адабраныя Лукашэнкам ільготы ці падтрымаць пікетоўшчыкаў, якія найперш змагаюцца за іх правы ды інтарэсы.

## Ленін у Горадні

***22 красавіка у Горадні прайшлі дзьве акцыі-пэрформансы, прысьвечаныя 130-й гадавіне з дня нараджэньня У.Леніна.***

Першую з гэтых акцыяў ладзіў Гарадзенскі Малады Фронт,які вырашыў пасьмяяца з вядомых камуністычных сымбалеў. На плошчы Леніна а 13-й гадзіне, каля помніка "правадыру" была пастаўлена стылізаваная "скульптура" "Рабочы і сялянка", але ў гэтым выпадку ролю рабочага выконвала дзяўчына, апранутая ў рабочы строй, а сялянкай быў хлопец ў спадніцы з падфарбаваным тварам.

Апроч гэтага "рабочы і сялянка" трымалі піянерскі сцяг з выявай Ільліча і пустую бутэльку з-пад піва, якая сымбалізавала сабой мару пралетарыята.Прастаяўшы прыкладна гадзіну "рабочы і сялянка" рушылі праз цэнтр гораду ў бок плошчы Савецкай.

Каля гандлёвага дому "Нёман" яны былі затрыманыя супрацоўнікамі Ленінскага РАУСу. Пасьля паўгадзіннае размовы маладыя людзі былі адпушчаныя.

У гэты момант пачаўся пэрфоманс, які ладзілі гарадзенскія анархісты. Арганізаваным тлумам, яны вырашылі падтрымаць ідэю дзяржаўнага суботніка. У лепшай традыцыі 20-х гадоў яны прыцягнулі бервяно, якое ўрачыста цягалі па горадзе. Там таксама былі і лёзунгі: "Даёшь – Давай!", "Тифозная вошь – враг пролетариата!". Наперадзе калоны ішоў "Ленін". Гэтая акцыя прайшла без затрыманьняў.

***Ігар Банцар***

# 1 КРАСАВІКА...

**Арыгінальную па зьместу акцыю правёў першага красавіка ў дзень Дурня гарадзенскі Малады Фронт. Усе, хто яшчэ працягвае верыць у дзеяздольнасьць сёньняшняй улады маглі ў 12.30 убачыць сябе ў цэнтры горада.**

Чырвоны нос, падбітае вока, плястыр на йлбе, запэцканая ватоўка ды нагавіцы зь месячным брудам - такім уяўляе сабе гарадзенская моладзь партрэт "электарата".

"Лукашэнкавец" трымаў у руках чырвона-зялёны сымбаль і тры плякаты. Лёзунгі "Не мяшайце прэзідэнту!", "Любіце Расію - маць вашу!", "Беларусь ад Буга да Курыл" -яскрава акрэсьлілі знешне-палітычныя памкненьні прадстаўніка "электарата". Вянчалі скульптуру плякаты на грудзёх і сьпіне: "Лукашэнка - адзіная надзея беларускага народу", "Хачу ў Чачню!" і вялікая шапка для грошаў на квіток.

Агітматэрыялы трымаць было цяжка, аднак палітычнага разуменьня ў народзе пікетовец не знайшоў - ніхто з гарадзенцаў да яговых патрабаваньняў не далучыўся.

"Чаго ты хочаш?" - пыталіся людзі. "З Расеяй хачу аб'яднацца." "Ну і дурань!" - ставілі дыягназ гарадзенцы.

"Працаваць трэба, а не за Лукашэнку агітаваць!" - прабурчэла бабулька і пацягнула ў тралейбус дзьве набітыя торбы.

Падчас акцыі склалася ўражаньне, што ў гарадзенцаў, нават і першага красавіка, няма часу на сьмех. Нехта, успрыняўшы акцыю ўсур'ёз, спрабаваў давесьці пра высокія кошты й малыя заробкі. Нехта сьціскаў кулак і казаў: "Молодец!" Хтосьці, пераважна жанчыны, рэагаваў жорстка і са злобай - "шызануліся вы ўсе разам са сваім Лукашэнкам".

А адпраўляць свайго ў Чачню гарадзенцы не сталі. За гадзіну акцыі было сабрана толькі 820 рублёў. З такімі грашыма і да Ліды не даедзеш.



# НАВУЧАЕМСЯ...

***З 9 па 12 сакавіка гэтага году ў м.Васількове, што пад Беластокам, адбыўся семінар на тэму "Прэзэнтацыя арганізацыі.Праца са СМІ. Як арганізаваць прэсавую канферэнцыю. Публічны выступ" арганізаваны супольна "Маладымі Дэмакратамі" (моладзевая арганізацыя "Unii Wolnosci"), "Маладымі Кансэрватарамі" (моладзевая арганізацыя AWS) і Беларускім Аб'яднаньнем Студэнтаў. Навучаньне было арганізавана для лідэраў гарадзенскіх арганізацыяў Маладога Фронту і Таварыства польскай моладзі.***

З прыгодаў пачалося падарожжа, калі яшчэ ў Горадні, на мытні пры даглядзе асаблівую цікавасьць выклікаў другі нумар бюлетэню "Дзіда". Але пасьля дэтальнага прагляду 10 паасобнікаў з пажаданьнямі шчасьлівай дарогі былі вернутыя.

Навучаньне адрозьнівалася важнасьцю закранутых тэмаў. Адзін з выкладчыкаў Пётра Варанецкі, практык у галіне Public Relation, зьвярнуў увагу на тое, без чаго проста нельга абыйсціся любой арганізацыі ў сучасны момант.

Гэта і лагатып, і рэклямная прадукцыя, і прамоўшэн, і праца з медыа і шмат яшчэ якіх дробязей. Дарэчы, арганізатары семінару ў гэтым праявілі такі прафесіяналізм, што можна было толькі пазайздросьціць. Семінар быў адной з навінаў штогадзіну на радыё "Ярд". Прысутнасьць беластоцкага тэлебачаньня і радыё, радыё "Рацыя" зрабілі, па словах саміх арганізатараў, уражаньне пасаджанага лесу, пры пасаджаным адным дрэве.

Томаш Куц, журналіст беластоцкага тэлебачаньня, у тэорыі ды на практыцы распавёў, як павінен сябе падаваць лідэр арганізацыі пры выступах на радыё і тэлебачаньні. Ягоны аповед быў упрыгожаны ўласнымі рэпартажамі, прадэманстраванымі на відэа з паказам характэрных памылак.

Шмат часу на семінары было прысьвечана менавіта лідэрству. Як павінен выглядаць лідэр арганізацыі, як і што казаць, як апранацца і яшчэ шмат чаго расказалі выкладчыкі і лідэры польскіх моладзевых арганізацыяў. Яны праявілі вялікую зацікаўленасьць дзейнасьцю нашай арганізацыі, нашымі цяжкасьцямі ў працы. Спадзяемся, што гэта знойдзе рэалізацыю ў канкрэтных супольных праектах.

Вяртаючыся дамоў у цягніку мытнікі зноў зацікавіліся нашымі асобамі. Праглядзелі матэрыялы семінару, шукалі "антыдзяржаўную" прапаганду. Асабліва іх нясьцярожыў збор "Публічны выступ", прыйшлося тлумачыць, што гэта зусім не пра масавыя акцыі пратэсту. І зноў з пажаданьнямі шчасьлівай дарогі нам вярнулі ўсе матэрыялы.

***Горадня-Васількаў-Горадня***

***С.А.***

# ІНЦЫДЭНТ...

**1 траўня супрацоўнікамі гарадзенскай міліцыі былі затрыманыя 14 актывістаў Маладога Фронту, якія накіроўваліся на плошчу Леніна, да месца правядзеньня першатравеньскага мітынгу.**

Маладыя людзі ішлі па вуліцы Гарадніччанскай, калі дарогу ім перакрылі восем міліцыянтаў.

- Это что за неорганизованная группа направляется к месту митинга? - крыкнуў капітан Вялічка, які кіраваў «акцыяй». - А что у вас в сумках? - міліцыянт рэзка выхапіў пакет з рук аднаго хлопца.

- А, флаг! Пройдёмте-ка, ребята!

Без усялякіх тлумачэньняў хлопцаў і дзяўчатаў завялі ў Ленінскі РАУС, дзе ім зрабілі агляд асабістых рэчаў - заплечнікаў, пакетаў. У Валерыя Кісяля канфіскавалі бел-чырвона-белы сьцяг. Інспэктар Бозік назваў яго ў пратаколе: «...Флаг (бело-красно-белый) неустановленного образца».

Пасьля з маладафронтаўцамі была праведзена «прафіляктычная размова», падчас якой моладзі далі зразумець, што «быў загад патрымаць вас тут з гадзінку». А яшчэ высьветлілася, што сябраў МФ затрымалі «с целью профилактики» (гэта, хіба, у Адміністратыўным Кодэксе РБ новы артыкул зьявіўся - «Прафіляктыка»).

Сярод затрыманых апынулася дзяўчына зь беларускай дыяспары ў Маскве. Міліцыянты былі ў шоку: «А што, і там па-беларуску гавораць?»

Адразу пасьля таго, як мітынг на плошчы Леніна скончыўся, усіх затрыманых адпусьцілі.

Акрамя гэтага першага траўня на мітынг выходзілі анархісты, якія раздавалі свае ўлёткі ды газэту "Антыфашык". У іхных улётках казалася пра тое, што сёньня першага траўня – гэта ня дзень салідарнасьці, а "чорны першамай". Што гэта дзень жалобы, бо на пачатку стагодзьдзя менавіта ў гэты дзень падчас разгону дэманстрацыі ў Амэрыцы былі забітыя рабочыя-анархісты й што ў гэты дзень трэба баставаць, а не выходзіць сьвяткаваць. Падчас іхнай акцыі было раздадзена каля 300 улётак і столькі-ж "Антыфашыкаў". Што цікава, гэта акцыя прайшла без затрыманьняў. Толькі ўвечары быў затрыманы адзін з анархістаў за тое, што ён зрываў чырвоныя сьцягі. Пры затрыманьні на яго не было складзена пратаколу й міліцыянт нават не патлумачыў, за што ён яго затрымліваў. Але праз паўтары гадзіны хлопец быў выпушчаны на волю.

***Андрэй Мялешка***

## Беларуская музыка ў Інтэрнэце

**У сёньняшні дзень сусьветнае павуціньне ахоплівае амаль усе галіны моладзевых інтарэсаў. Вось, напрыклад, і беларускія музыкі займелі свае сайты ў Інтэрнэце.**

**Адрасы гэтых сайтаў прапануем вашай увазе. Мяркуем, што вы знойдзеце на гэтых старонках шмат патрэбнай і цікавай інфармацыі.**

| ГУРТЫ | СТАРОНКІ |
|---|---|
| NRM | http://fly.to/nrm |
| ULIS | http://fly.to/ulis |
| KRYWI | http://fly.to/kriwi |
| ZNICH | http://members.xoom.com/znich |
| Народны альбом | http://fly.to/nalbom |

Таксама падаем адрас Беларускай Музычнай Альтэрнатывы, ініцыятывы, якая займаецца рэкламай ды замовай беларускай музыкі: http://fly.to/bmagroup

***А. Мялешка***

## Ваўкавыскі Мірон

**Некалькімі бел-чырвона-белымі сьцягамі сустрэў ваўкавыскі Мірон сьвята Волі.**

Гэтыя дарагія для кожнага беларуса дву-калёры радавалі натхнялі, усялялі ўпэўненасьць у сваёй праўдзе, веру ў перамогу. Гэтак натуральна глядзеліся спрадвечныя сымбалі Волі на тле чыстага блакітнага вясновага неба. І станавілася зразумелай нянавісьць стаўленікаў рэжыму да гэтых колераў: яны бачаць у іх хуткі свой скон, увесь бруд сваіх танных нікчэмных справаў. З гонарам і радасьцю глядзець на іх могуць толькі шчырыя, сумленныя, годныя вочы...

*25 сакавіка 2000 г.*

***Паўлюк Валошка***

## Думай глабальна – дзейнічай лакальна

**У суботу, 8 красавіка, гарадзенская моладзь ладзіла экалагічную акцыю.**

Сябры "Маладога Фронту", "Маладой Грамады", "Альянсу імя Вітаўта Вялікага", "Дзедзічаў" прыбралі смецьце, бітае шкло, старую траву на тэрыторыі вакол Каложскай царквы.

Каложа даўно стала ўлюбёным месцам не толькі вернікаў, але і тых, хто проста мае жаданьне пасядзець на высокім беразе Нёмана каля старажытнай царквы. Пасьля гэтых "пасядзелак" заўсёды застаюцца недапалкі, парожнія бутэлькі з-пад піва і шампанскага. Прычына самая банальная. У гарадскіх уладаў не даходзяць рукі, каб паставіць некалькі сьметніцаў.

Упэўненыя, што падобныя акцыі стануць пастаяннымі. Што да іх далучацца і іншыя арганізацыі, і ня толькі моладзевыя. Праца знойдзецца ўсім.

***П.М.***

# ФОТАРЭПАРТАЖ... 25 сакавіка. Горадня











<u>*Натальля Арсеньнева*</u>

## 25-ты Сакавік

Ён прыйдзе, гэты дзень!
Ён не прыйсьці не можа!
Ён прыйдзе – й загудзе
вясновы буралом,
пакрышыць, размяце,
раскідае, зьнішчожыць усё,
што нам шляхі да хаты замяло!
Ці чуеце?
Аб ім шасціць быльнёг аселіц,
пяюць вятры ў лазе
і звоніць крыгаў лёд.
Ахвяраю крыві,
а Слова стане Целам,
і ўжо ніколі больш не ўстане
Чорны Год.
Няхай бярэмя він
прыгнула нас, і крылы апалі,
й хлеб чужы нясмачны і важкі,
няхай нас апавіў
тугой агорклы вырай, —
трывайма!
Ён ідзе – Вялікі Сакавік!
Ідзе й пад ногі рунь
яму кладзецца,
таюць снягі,
на паплавох зяленіцца трава...
Радзіма!
Беларусь!
Каханая, святая!
Багаслаўі нас жыць
і веру захаваць!

**1950**






*Янка Золак*

## Дваццаць пяты дзень сакавіка

У прыгожы ясны дзень вясновы –
Дваццаць пяты дзень сакавіка, —
Тоўсты лёд, бы ржавыя аковы,
Разарвала бурная рака.

Застагналі з енкам крыгі лёду
У струменях вольнае ракі...
Зазьвінелі радасьцю народу
У блакітных высях жаўрукі.

Беларускі люд, што быў закуты,
Зрабаваны сілай чужака, —
Разарваў свае няволі путы
Ў дваццаць пяты дзень сакавіка.

Засьвяціла сонца й беларусу..
Толькі б жыць і цешыцца вясной;
Ды навокал носьбіты прымусу
Зноў вілі нам церневы вянок

Ня судзіў нам лёс... І край гаротны
Ні вясны, ні волі ня ўтрымаў.
Зноў прыйшлі к нам хваляю зваротнай
Чужакі, няволя і зіма.

Цісьне сівер... Ды рака пад лёдам
Набірае сілаў да вясны.
Не зламаная воля у народа
Скінуць з плеч прымусу кайданы.

Вернецца яшчэ той дзень вясновы –
Дваццаць пяты дзень сакавіка!
Зноў няволі нашае аковы
Разарве народная рака.

***24 сакавіка 1963г.***



# Агляд антыфашыстоўскае прэсы

## Антыфашык №1(5) 2000

АНТЫФАШЫК
ІНФАРМАЦЫЙНЫ АНТЫФАШЫСТОЎСКІ БЮЛЕТЭНЬ
BELARUSIAN INFORMATION ANTI-FASCIST BULLETIN
№ 1(5),2000



Найбольш вядомы ў нашым горадзе і на нашую думку ў Беларусі бюлетэнь.

Першы нумар за 2000 год пачынаецца з заявы якую трэба б было працытаваць: "Антыфашык – гэта адкрытая асацыяцыя ..."

Актуальнымі, на маю думку, падаюцца навіны з розных куткоў Беларусі, Расеі, розных краінаў Эўропы ды нават Мэксікі.

Укладыш гэтага нумару прысьвечаны агляду самвыдату на Беларусі, прысьвечаны музычнай сцэне. Што цікава, гэты укладыш-разьдел "Антыфашыка" мае сваеасаблівую назву "Партызаны бетонных джунгляў" (назва песьні гурта "Hate To State").

Наступныя старонкі газэткі расчыняюць вочы на аўстрыйскую Партыю Свабоды ды яе лідара Ёрга Хайдэра.

Але найбольш вялікім ды зьмястоўным падаецца артыкул-абмяркаваньне камунізму ды фашызму "Камуна-фашызм". Матэрыялы да гэтага артыкулу былі ўзятыя пад час антыфа-семінару, прайшоўшага ў студзені бягучага году ў Менску, прысьвечанага 10 годдзю падзеньня Берлінскага мура "Камунізм і фашызм: спробы параўнаньня".

Перадапошняю старонкаю зьяўляецца артыкул на вельмі спрэчную тэму "Гомасэксуалісты і фашысты", у якім паказанае ўнутранае жыцьцё фашыстаў у Нямеччыне.

Зачыняе нумар, як заўжды, плакат-улётка з антыфашыстоўскім зьместам.

## Тум-балалайка №13

ТУМ БАЛАЛАЙКА
№ 13

Газэта па вядомасьці стаіць якраз на другім месцы пасьля "Антыфашыка". Адрозьніваецца не толькі большай колькасьцю старонак ды прафесійным падыходам да адказаў на зададзеныя пытаньні.

Асноўная тэма гэтага нумару – "Халакост". "Халакост" – гэта на сёньняшні дзень пашыранае паняцьце, якое ўвасабляе ў сабе не толькі ганеньні на габрэяў, але і на іншыя меншасьці На сёньняшні дзень ахвярамі Халакосту лічацца габрэі, насельніцтва рома/сінці, Сьведкі Іеговы, гомасэксуалісты, асобы з псіхічнымі ды фізічнымі недахопамі, сацыял-дэмакраты, камуністы ды іншыя асобы, якія насілі ў канцентрацыйных лягерах трохкутнікі рознага колеру.

Найбольш цікавымі ў гэтым нумары падаюцца артыкулы "Устранение бесполезных" прысьвечаны забойству ў нацыскай Нямеччыне 1000000 псіхічна хворых асобаў, ды палітыцы "расавае гігіены".

Але раскрываецца тэма больш у артыкуле "Убийство памяти", прысьвечаная забойству габрэяў Савецкага Саюзу, падыход да раскрыцьця злачынстваў фашыстаў пасьля Вялікай Айчыннай вайны савецкімі ўладамі, усе "плюсы" ды "мінусы".

Найбольш спрэчным зьяўляецца артыкул "Суперколосс или добро пожаловать в Россию!", які прысьвечаны вядомаму фільму "Сібірскі цырульнік".







**Моладзевы Антыфашыстоўскі Цэнтар** абвяшчае конкурс на лепшы антыфашыстоўскі малюнак "Беларусь без свастыкі". Малюнкі дасылаць на адрас: ***МАЦ, п/с 62, Гародня-3, 230003*** альбо прыносіць штосацьвер і нядзелю ў 19:30 па адрасе : вул.К.Маркса,11 (першы паверх). Малюнкі прымаюцца зробленыя ў любым выглядзе (тушшу,алоўкам, фарбамі ды інш.), могуць быць любога памеру. Пераможцаў чакае шыкоўны прыз !

**Прапануем вашай увазе першыя працы невядомых мастакоў.**



*Творчасьць нашых сяброў*

## Жыве Беларусь!

Шэрыя лужыны, шэрыя хмары,
Шэрыя вёскі, шэры абшар.
Удалеч ляцяць ненадзейныя мары,
Бо на зямлю прыйшоў ня той гаспадар.
І птушкі ляцяць у вырай далёка,
І сонейка дзесьці там, за мяжой
Жыцьцё не сьцежка – дарога.
І хочацца ў неба крыкнуць: "Далоў!"
Устаць на калені – зямлю цалаваць
І з гаем заўсёды аб сонейцы марыць,
І штосьці галінкам паабяцаць.
"Жыве Беларусь!!!" крыкнуць удалеч...

***Альгунька***

***

Гляджу ў вакно - душа сьпявае:
Па-над дарогай сьцяг лунае,
Спрадвечны колер бел-чырвона-белы
Ён нашых сэрцаў абарона
Ад той хлусьні, што нам убівалі
Нашчадкі Кобы Джугашвілі.

А ўсе глядзяць, а ўсім цікава:
Адкуль узялася тая зьява?
Адказ тут просты, без маны
Зямелькі роднай то сыны
Сказаць жадаюць нам і людзям,
Што жывы мы і жывы будзем!
Няхай нас шмат хто не прымае,
Жыве пацїху, не жадае
Прымаць удзел у сьвяце Волі;
Мы самі зьменім нашу долю,
Каб нашы дзеткі захавалі
Той скарб, што продкі нам сабралі.
Гляджу ў вакно - душа сьпявае:
Па-над дарогай сьцяг лунае...

*25 сакавіка 2000 г.*
***Паўлюк Валошка***

## Легіёны

Стогнуць гаротна й плачуць
Паняволены народы,
Але хутка з каленяў устануць,
Бо ідуць Легіёны Свабоды.

Па астыламу попелу вогнішч,
Па забытых усімі дарогах,
Па шляхах палёў і пасьбішч
Йдуць Легіёны Бога!

Па крывёю залітых рэках,
Па згвалтованай нашай долі...
Разьнясецца па Краі рэхам,
Што ідуць Легіёны Волі!

***У.Вой***

## Нязьдейсныя мары

*Палітвязьням прысьвячаецца*

У брудным бараку няздейсныя мары
Прыходзяць да Вас штоночы
Свабоднымі прагніце стаць быццам хмары
На волю адсюль уцячы.

Штоночы Вам сьняцца Айчыны абшары,
Вады марыце крышталічнай папіць,
Адчуць сьвежы вецер на стомленым твары
Адно хоць імгненьне свабоднымі жыць.

Знайсьці марыце адно роднае сэрца,
Што з вашым у такт будзе біць.
Ды толькі навокал адны людажэрцы,
Што прагнуць Вас зьнішчыць, забіць.

Сканчаецца сон, а вы зноўку ў пекле
На небе зчарнелыя хмары.
Яны вашы душы яшчэ не пасеклі,
І Вашы нязьдейсныя мары...

***У.Вой***



## Мы выйдзем шчыльнымі радамі

Мы выйдзем шчыльнымі радамі
На вольны родны свой прастор,
Хай воля вечна будзе з намі,
А гвалту мы дамо адпор,
Дамо адпор!

Няхай жыве магутны, сьмелы
Наш беларускі родны дух,
Родны дух!
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрый сабой народны рух.

На бой за шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі,
На бой усе да аднаго,
Да аднаго!

Імя і сілу беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
Бачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой!

Браты да шчасьця мы падходзім,
Хай гром грыміць яшчэ мацней,
Ў крывавых муках мы народзім,
Жыцьцё Рэспублікі сваей,
Жыцьцё Рэспублікі сваей!




# 25 сакавіка

Дзень 25-га сакавіка не проста дата ў гісторыі Беларускае Нацыі, гэта дзень – Дзень Ейнае Волі. Пасьля страты дзяржаўнасьці на ганебным Гарадзенскім сойме, знайшліся людзі, якія пачалі шлях да 25 Сакавіка. Якуб Ясінскі сказаў: "Я Бацькаўшчыны сваёй не перажыву." Ды загінуў, засланяючы сваімі грудзьмі Радзіму 4 лістапада 1794 году. Сьцяг, які пахіснуўся ў яго зьнямелых руках, быў падтрыманы князем Дамінікам Радзівілам і тымі, хто паўстаў за Бацькаўшчыну ў 1812 годзе падчас франка-расейскай калатнечы і склаў свае галовы, набліжаючы 25 Сакавік. Але, хаця цела засталося ў няволі, Дух застаўся вольны, а ў 1817 годзе паўстала таварыства філаматаў на чале з Тамашом Занам, Адамам Міцкевічам і Янам Чачотам, быў зроблены яшчэ адзін крок да Незалежнасьці. Бяскрыўдных юнакоў асудзілі на няволю ў далечыні ад Бацькаўшчыны. Нацыя адгукнулася паўстаньнем 1831 году. Паўстала шляхта, чыстая крыніца беларускае саматсеснасьці. І, здавалася, патанулаяч Атлантыда выплыла, каб потым зноў схавацца. Але палеглыя ў нароўнай адчайнай барацьбе верылі, што яно прыбудзе, наша з Вамі сьвята, сьвята Волі. Нават царская нямодзскасьць, разьюшанасьць, што хацела вынішчыць Мову, Веру, Надзею, зышла на нішто перад мужнымі патрыётамі 1863 году. Асоба Каліноўскага зьяднала народ, дала веру ў сваю сілу. Што ішлі паміраць, каб жала Бацькаўшчына. Яны ужо ведалі, што рана ці позна, сёньня альбо заўтра, але неадступна ён прыйдзе, Дзень 25 Сакавіка – Дзень Волі.

І гэтак далей Багушэвіч, Купала, Колас, Луцкевічы, Ластоўскі ды іншыя кожным сваім уздыхам набліжалі набліжалі гэты Дзень.

І нарэшце, 25 сакавіка 1918 году на 3-ім паседжаньні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі а 6-ай раніцы прагучалі словы: "Адгэтуль БНР зьяўляецца вольнаю і незалежнаю".

Незалежнаю і вольнаю... А ці ведаем мы веліч гэтых двух словаў, ці бачым мы іх хараство, ці ведаем кошт, які яшчэ трэба заплаціць за іх? Шмат хто яшчэ гэтага ня ведае і ня бачыць! Незалежнасьць – гэта ня фраза, не праграмны параграф, не які ААНаўскі пункт. Незалежнасьць – гэта найвышэйшая мэта, да якой ідуць народы, той кумір, якому ў ахвяру аддаюць яны сваіх лепшых сыноў.

Незалежнасьць – гэта вынік напружанай працы пакаленьняў.

## Шоў Беларушчыны

**Ваўкавыская суполка "Маладога Фронту" сумесна з Ваўкавыскай МІ "Ліцьвіны" пачалі праводзіць віктарыны "Шоў Беларушчыны" у школах горада.**

Нядаўна такая імпрэза адбылася ў 9-ых клясах СШ№4 горада. Прыемна было бачыць, як на першы пагляд абыякавыя да Радзімы расейскамоўныя падлеткі пачыналі гаварыць, жартаваць, спрачацца і нават "хварэць" за сваю каманду па-беларуску. Нечаканасьцю для настаўнікаў, што прысутнічалі на шоў, былі на шоў былі адказы вучняў зь нізкім, на іх погляд, узроўнем інтэлекту (адзін такі вучань заняў другое месца). Паказчыкам удалай імпрэзы былі не толькі ўражаньні падлеткаў але й іхняе "Жыве Беларусь!" у канцы віктарыны.

На працягу апошняй навучальнай чвэрці "Малады Фронт" і МІ "Ліцьвіны" плянуюць правядзеньне падобных віктарынаў у 10-х, 11-х клясах гэтай і іншых школах горада.

***Адэлька***

## Рэгістрацыя

**19 сакавіка на паседжаньні Цэнтральнай Рады Маладога Фронту было прынята рашэньне аб падрыхтоўцы дакумантаў да рэгістрацыі ў Міністэрстве Юстыцыі.**

Гэтае рашэньне не было простым. Яно стаяла на парадку дня даволі працяглы час. Аднак на апошняй ЦР пасьля доўгай палемікі рашэньне было прынята. У адпаведнасьці з гэтым 16 красавіка адбыўся Устаноўчы з'езд Маладога Фронту, які распачаў новую гісторыю нашай арганізацыі.

***С.А.***




Гарадзенскі МАЛАДЫ ФРОНТ зьбіраецца штосераду і нядзелю па адрасе: **вул. К.Маркса, 11** (першы паверх). Тэлефон: **72-11-83.**

## Алімпіяда-2000

21 траўня 2000 года Гарадзенскі Малады Фронт распачынае ў горадзе Алімпіяду моладзевых няўрадавых арганізацыяў Горадні.

Прадстаўнікоў няўрадавых арганізацыяў гораду просім зьвяртацца штосераду і нядзелю ў 19.30 па адрасе г.Горадня, **вул.К.Маркса, 11** ці па тэлефоне **72-11-83**. Заяўкі таксама прымаюцца поштай: 230003, п/с 110; E-mail: **bunt.hrodna@usa.net**.

ІНФАРМАЦЫЙНЫ ВЕСЬНІК ГАРАДЗЕНСКАЕ АРГАНІЗАЦЫІ «МАЛАДОГА ФРОНТУ» ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА НЕПЭРЫЯДЫЧНЫМ ВЫДАНЬНЕМ. НАКЛАД 299 АСОБНІКАЎ.
АДРАС ДЛЯ КАНТАКТАЎ: 230003, ГОРАДНЯ-3, А/С 110. E-MAIL: BUNT.HRODNA@USA.NET
ВЕСЬНІК ВЫДАЕЦЦА ПРЫ САДЗЕЙНІЧАНЬНІ ГА «МАЛАДАЯ ГРАМАДА» І ГТА «РАТУША»